


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 47 (1134) ГОД XXII БЕЛАСТОК 20 ЛІСТАПАДА 1977 г. ЦАНА 60 гр.

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

Гэтая сустрэча наступіла зусім нечакана. У палавіне кастрычніка Аляксандра Бергман прыслала ў нашу рэдакцыю ліст. Яна — былы прафесіянальны падпольны дзеяч Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, цяпер жа вядомая даследчыца гісторыі заходнебеларускага рэвалюцыйнага руху — з хваляваннем пісала: *„Сёння я атрымала ад М. С. Арэхвы ліст, што ў Элку жыве сястра Леапольда Родзевіча. Для мяне гэта патрасаючая вестка. Я ж пра тое не ведала. Сярод людзей, што былі з ім знаёмы, мне вядомы тры чалавекі, сярод іх адзін — гэта я. Цяпер рыхтую я даследаванне пра яго ў „Пшэглёнд гістарычны". Размова з сястрою для мяне вельмі-вельмі патрэбна..."*

Потым, ужо па тэлефону мы дамовіліся, што сустрэнемся ў Элку, на кватэры **Яніны Юзэфовіч** — роднай сястры Леапольда.



*Злева Я. Юзэфовіч, побач А. Бергман.* *Фота М. Гайдука.*

# НОВАЕ ПРА ЛЕАПОЛЬДА РОДЗЕВІЧА

Праз некалькі дзён я ўжо стукаю ў дзверы адной з кватэр дома на густа забудаванай жыллёвымі карпусамі вуліцы Вавельскай у Элку. Пераступаю парог, заглядаю з калідора ў адкрытыя дзверы пакоя: там ужо таварыш Аляксандра Бергман сядзіць за сталом і жвава размаўляе з мілавіднай старэнькай жанчынай, у рысах твару якой кідаецца ў вочы падабенства з Леапольдам Родзевічам. Вітаюся і з радасцю чую:

— Яніна Юзэфовіч, а родам я з Родзевічаў з Кур'янаўшчыны, што ў колішнім Вілейскім павеце на Віленшчыне. Лёлек, так мы дома называлі Леапольда, быў маім малодшым братам...

Усхваляваны ліст А. Бергман і наша неадкладная паездка ў Элк не была выпадковай. Леапольд Родзевіч, як вядома, займае віднае месца ў гісторыі рэвалюцыйнай барацьбы і ў літаратуры былой Заходняй Беларусі. Ён быў членам Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі, садзейнічаў уваходу яе ў Камуністычную партыю Заходняй Беларусі. У КПЗБ працаваў сакратаром Гродзенскага акруговага камітэта КПЗБ, з'яўляўся прадстаўніком ЦК КПЗБ пры Камінтэрне, потым шмат гадоў рэдагаваў газету „Чырвоны сцяг" і часопіс „Бальшавік" — органы ЦК КПЗБ. Быў ён таксама адароным пісьменнікам, яго пяру належыць шэраг п'ес (між іншым, „Блуднікі", 1912 г.; „Пакрыўджаныя", 1916 г.),



*Леапольд Родзевіч. Здымак з сямейнага архіва Я. Юзэфовіч.*

вадэвіляў (сярод іх „Збянтэжаны Саўка", 1918 г., яшчэ і цяпер ставіцца тэатральнымі гурткамі БГКТ), выйшлі таксама зборнікі яго вершаў („Беларусь", 1922, і „На паняволеных гонях", 1928 г.) і апавяданняў („Рэвалюцыйным шляхам", 1928 г., і „Вогнішча барацьбы", 1930 г.). Пра яго І. П. Хаўратовіч змясціў у „Полымі" № 9 за 1965 г. артыкул „Ён заслужыў добры ўспамін пра сябе", а А. Бергман апублікавала цікавы артыкул „Пра Леапольда Родзевіча, „Антося", слоў некалькі" ў „Беларускім календары" на 1977 год.

І ўсё ж многае з жыцця і дзейнасці гэтага выдатнага чалавека не было вядома. Перш за ўсё вельмі мала звестак захавалася пра сям'ю Родзевічаў.

І пані Яніна, быццам здагадаўшыся пра гэта, пры дапамозе знаёмай суседкі, што прыйшла наведаць яе, дастае з розных шуфлядак і шкапчыкаў стус пажаўцеўшых колішніх здымкаў, метрыкаў, лістоў і іншых дакументаў. Перагортвае гэты сямейны архіў і на адным са здымкаў паказвае нам мужчын, што іграюць у шахматы.

— Гэта якраз гасціная ў нашым дворыку ў Кур'янаўшчыне. Гэта наш тата — паказвае яна на фігуру статнага мужчыны. — А гэта наш Чэсь, побач з ім Лёлек. Чэсь — гэта наш брат, ён быў старэйшы ад Лёлька...

Працяг на стар. 4




У палове кастрычніка ў Варшаве адбыўся чарговы педагагічны кангрэс настаўнікаў.

Як вынікае з гісторыі нашай асветы, кангрэсы і з'езды педагогаў збіраліся заўсёды ў пераломны момант у жыцці нашага грамадства. Сёлетні кангрэс сабраўся ў час, калі закончылася, практычна, падрыхтоўка да новай сістэмы адукацыі. У агульнанастаўніцкай дыскусіі над рэформай у падрыхтоўчы перыяд унесла свае прапановы 41 тысяча настаўнікаў. Кангрэс падсумаваў вынікі дыскусіі і такім чынам замкнуў першы, падрыхтоўчы этап у новай сістэме навучання. Падставовым звяном у новай сістэме адукацыі, як сцвярджае рэзалюцыя кангрэса, будзе абавязковая ўсеагульная бясплатная сярэдняя школа з агульнаадукацыйным і палітэхнічным напрамкамі. У такой школе будзе аднолькавая для ўсіх праграма навучання і выхавання як у горадзе, так і ў вёсцы.

Упершыню ў гісторыі асветы, ужо пачынаючы ад гэтага навучальнага года, уведзена абавязковае прадшкольнае выхаванне для ўсіх дзяцей. А ад верасня будучага года па новай праграме пачынаюць вучыцца ўсе першакласнікі. Падрыхтоўка да школы шасцігодкаў — гэта неабходная справа для таго, каб усе дзеці ў Польшчы, і з вялікіх гарадоў, і з найменшых вёсачак, мелі ў школе аднолькавы старт у навуцы. Іменна гэтай жа справе паслужыла і рэарганізацыя вясковых школ у зборныя гмінныя школы, якія стануць у далейшым падставай дзесяцігодак. Рэарганізацыя вясковых школ яшчэ не ўсюды закончана. Яна патрабуе нямала арганізацыйных сіл і фінансавых сродкаў, але зроблена ўжо ў гэтым напрамку вельмі многа.

Увядзенне новай сістэмы ў навучанні патрабавала павышэння кваліфікацый настаўнікаў. Ужо ў падрыхтоўчы перыяд у інстытутах краіны вучылася каля 40 працэнтаў усіх настаўнікаў. Вялікая колькасць настаўнікаў канчае вышэйшыя школы і ў гэтым годзе. Толькі ў нашым Беластоцкім, цяперашнім, ваяводстве ў 1977 годзе больш 200 настаўнікаў здало магістэрскія экзамены, каля 200 — экзамены павышэння кваліфікацый для старэйшых настаўнікаў, а каля 400 настаўнікаў пачало вучобу ў гэтым годзе. Ужо ў першыя гады працы па новай праграме амаль усе настаўнікі будуць з вышэйшай адукацыяй. Гэта дасць ім магчымасць лепш, больш аддана ўдзельнічаць у стварэнні новай школы, у выкананні новай праграмы навучання.

А праграма гэтая нялёгкая і няпростая. Значна больш у кожным прадмеце звернута ўвагі на выхаванне моладзі, на пашырэнне яе кругазору, на фармаванне ідэйных пастаў.

„Разумеем, што педагог — гэта цэнтральная постаць у навучанні і выхаванні, — сцвярджалі дэлегаты кангрэса. — Ад узроўню адукацыі настаўніка; яго ведаў і ўмення, яго пазіцыі ў асяроддзі залежыць поспех рэформы".

Настаўнікі звярнулі ўвагу і на неабходнасць удасканальвання сістэмы падрыхтоўкі настаўніцкіх кадраў.

Але выхоўвае не толькі школа. У рэформе асветы вялікая роля прызначана сродкам масавай інфармацыі — прэсе, радыё, тэлебачанню. Ім адводзіцца інтэгральная частка ў сістэме адукацыі і выхавання.

Вялікія задачы паставіла рэформа асветы перад сям'ёй, маладзёжнымі арганізацыямі, прадпрыемствамі-апекунамі, пляцоўкамі аховы здароўя, нават перад войскам як выхаваўчай установай, якая пераймае на сябе абавязкі далейшага выхоўвання выпускнікоў школы.

Усе гэтыя справы абмяркоўваліся на кангрэсе ў 16 рабочых камісіях. І кожная камісія сфармулявала свае прапановы, на якія будзе абапірацца ў далейшай працы Міністэрства асветы і выхавання.

Адкрытай засталася справа далейшага навучання выпускніка дзесяцігодкі. Да першага выпуску новай школы яшчэ 10 гадоў. Ёсць яшчэ час добра разважыць гэтую справу. Аднак большасць педагогаў выказалася за двухгадовую школу кірунковай спецыялізацыі.

Працяг на стар. 4

# ЗА ХЛЕБ І МЯСА

Гэты год астанецца вельмі памятным у сялянскім лёсе нашай краіны. Для парадку прыпомнім найважнейшыя падзеі. Найперш было пленарнае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта партыі, прысвечанае праблемам забеспячэння насельніцтва харчамі, у час якога Эдвард Герэк накрэсліў агульныя асновы, на якіх сяляне-аднаасобнікі маглі б атрымаць пажыццёвыя пенсіі. Неўзабаве мы даведаліся, што праект такой пастановы адобрыла Палітбюро Цэнтральнага Камітэта партыі і ўрэшце пад канец кастрычніка гэтага года на аснове **аднагалоснай сеймавай пастановы** гэты праект стаў **законам** Польскай Народнай Рэспублікі. Сяляне-аднаасобнікі і іх сем'і атрымалі права на пенсію ва ўзросце 65 гадоў для мужчын і 60 гадоў для жанчын, калі перадаюць гаспадарку сваім дзецям або дзяржаве.

### З ПАМЯРКОЎНЫМ АПТЫМІЗМАМ

Пры гэтай нагодзе шмат гаварылася аб змаганнях за хлеб і мяса, аб жыцці і працы нашых сялян. У Беластоку, для прыкладу, 29 кастрычніка адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта партыі, у час якога яго ўдзельнікі абмеркавалі праграму развіцця сельскай гаспадаркі і спажывецкай прамысловасці Беластоцкага ваяводства. Выступаў І сакратар Ваяводскага камітэта Уладзіслаў Юшкевіч, сакратар Станіслаў Зялінскі, віцэ-ваявода Станіслаў Топур і многія іншыя члены Ваяводскага камітэта партыі, а таксама і запрошаныя госці. З гэтых выступленняў вынікае адзін найбольш агульны вывад: **вобраз вясковай гаспадаркі Беластоцкага ваяводства пад канец 1977 года ацэньваць можна з памяркоўным аптымізмам.** Агульная прадукцыя нашых хлебаробаў на 8 з лішнім працэнтаў была вышэйшая ў параўнанні з папярэднім 1976 годам. Нашы сяляне поўнасцю пераканаліся, што варта больш гадаваць свіней і кароў, што аплоціцца ім — наперакор неспрыяльным атмасферным умовам — пашыраць плошчу пасеваў збожжа і бульбы. Асабліва цешаць два паказчыкі: **у жывёлаводаў Беласточчыны зараз больш на 10 працэнтаў свінаматак і аж на 20 працэнтаў больш паросных свінаматак.** Гэты факт найлепш выяўляе намеры сялян. Яны настаўляюцца на пашырэнне таварнай прадукцыі. За 9 месяцаў гэтага года прадалі дзяржаве на 7 працэнтаў больш жывёлы, на 17 працэнтаў больш малака і амаль на 22 працэнты больш яек. Больш, вядома, у параўнанні з такім самым перыядам папярэдняга года. Адно толькі ў гэтым усім непакоіць, што замнога цялят гаспадары прызначаюць на ўбой, замест іх гадаваць.

### ЦАНА НА ЗЯМЛЮ

У гэтым годзе ў дзесяць разоў больш прададзена зямлі аднаасобнікам, чымсьці ў мінулым годзе, і ўсё паказвае на тое, што такая тэндэнцыя будзе нарастаць. У некаторых гмінах Беластоцкага ваяводства цана аднаго гектара зямлі даходзіць ужо да 50 і болей тысяч злотых.

На жаль, наглядаецца і адваротная з'ява: пакіданне зямлі, ды перш за ўсё

(Працяг на стар. 4)




## Састарэлыя дзяўчынкі

У сучасны момант у свеце многа гавораць пра акселерацыю. Тэмп жыцця ў век навукова-тэхнічнай рэвалюцыі з кожным годам паскараецца, а значыць, і развіццё людзей павінна паспяваць за гэтым тэмпам.

Але ёсць катэгорыі людзей, якія зусім не рады гэтай акселерацыі. Напрыклад, зоркі заходняга кінематографа. Як бы яны таго не хацелі, а ўсё больш сімпатыі пастаноўшчыкаў фільмаў схіляюцца да больш маладых талентаў. Паміж прадстаўнікамі такога пункту гледжання існуе канкурэнцыя: хто каго пераплюне ў падборы самых маладых артыстаў для кіно. Многія выкарыстоўваюць у гэтых мэтах на ролю жанчыны малалетак-дзяўчынак. Ды яшчэ якую ролю! Адна 14-гадовая галівудская зорка Джуддзі Фостэр у двух фільмах здымалася на непаўналетнюю прастытутку. І гэта лічылася кампетэнтнымі ў кінематографе дзеячамі правамерным з пункту гледжання мастацкай праўды. А галоўнае, што Джуддзі Фостэр прынесла ў іх кішэню немалыя сумы грошай.

Зусім дарослую і зусім непадыходзячую для сябе ролю давялося выконваць 12-гадовай французскай дзяўчынцы Лары Вэндзель, а 14-гадовая Анда Ландры ўжо здымаецца ў такіх, мякка кажучы, не дзіцячых тэлефільмах на працягу шасці год.

У гарачцы канкурэнцыі па выданню парнаграфічных твораў некаторыя кінематаграфісты да таго перастараліся, што нават буржуазная цэнзура якая многа такога бачыла на вяку, моршчыцца ад іх выданняў. Так французская цэнзура не дапусціла на экраны фільм з удзелам 12-гадовай Джонесек з-за празмерна парнаграфічных сцэн, а ў Італіі нарабіла клопатаў кіналента, якую здымаў італьянскі рэжысёр Мургі з зусім маленькай дзяўчынкай. Мургі назваў сваю работу цудам эротыкі... у пялёнках.

І невыпадкова малалеткі-артысты пачынаюць працягваць „выконваць" тыя ж ролі ў асабістым жыцці. Напрыклад, непаўналетняя лаўрэатка прэміі Оскара Татум О-Нейл у цяперашні час у фільмах занята ў ролях сваіх равеснікаў, але ў вольны час цягаецца па начных прытонах. Гэтыя дзяўчынкі заўчасна пазбаўлены дзяцінства і юнацтва, яны выглядаюць у свае 15-16 год пяцідзесяцігадовымі жанчынамі.





*Сядзіба гаспадаркі „Белавежская пушча". У цэнтральнай частцы будынка — музей.*

## Музей пушчы ў Каменюках

Цэнтрам турызму ў польскай частцы Белавежскай пушчы з'яўляецца Белавежа. У савецкай жа частцы такую ж ролю спаўняе мясцовасць Каменюкі. Тут наведвальнікі могуць убачыць звяроў у спецыяльным звярынцы, пазнаёміцца з экспанатамі Дзяржаўнай запаведна-паўночнай гаспадаркі „Белавежская пушча".

Музей займае цэнтральную частку двухпавярховага будынка. Тут жа знаходзіцца лабараторыя, дырэкцыя гаспадаркі, гасцініца і рэстаран. Выстаўка займае каля 800 кв. м і падзелена на шэсць залаў.

У першай зале, якая з'яўляецца адначасова і фае, наведвальнікі знаёмяцца з гісторыяй пушчы. Тут жа, у спецыяльнай вітрыне, знаходзіцца сярэбраная мініяцюрка помніка зубра, пастаўленага ў гонар палявання цара Аляксандра II ў 1860 годзе. Гэты помнік стаяў на паўдарогі з Гайнаўкі ў Белавежу, цяпер ён знаходзіцца ў Спале. Побач размяшчаецца экспазіцыя навейшых публікацый аб пушчы. Перад уваходам у чарговую залу стаіць экспанат зубра-самца. У зале на падстаўках групы зуброў і аленяў. У інфармацыях на таблічках гаворыцца аб жыцці, колькасці і ролі, якую яны спаўняюць у пушчы. Дапаўняюць усё гэта рогі аленяў і чэрапы зуброў, а таксама мадэлі паснікаў і кармушак. У гэтай жа зале можна ўбачыць калону з фатаграфіямі і прыкладамі раслін пушчы.

Цэнтральную частку трэцяй, найбольшай залы займае падсветленая выпуклая карта савецкай часткі Белавежскай пушчы з азначэннем месц асобных відаў звяроў. Побач — высокія, на два паверхі, ствалы галоўных парод дрэў. Табліцы пры іх паведамляюць аб складзе, запасах і прыросце дрэў, а таксама інфармуюць аб максімальным узросце і памерах асобных парод і дадзеныя аб ураджаі насення. Уздоўж сцен размешчаны групы казуль, дзікаў, ласёў і драпежнікаў. На бакавых калонах — паляўнічыя трафеі і прыгожыя гравюры па дрэве на тэму пушчы. Табліцы расказваюць аб колькасці розных відаў звяроў і парод дрэў у розныя гады і поры года. Зала ўпрыгожана фатаграфіямі звяроў і сцэнамі з палявання. Частку залы займае батанічны аддзел з гербарыямі і фатаграфіямі раслін і тыповых участкаў лесу.

У першай зале на другім паверсе — птушкі, экспанаваныя ў вітрынах і на металічных дротах, імітуючых ствалы і галіны дрэў. Сярод іншых ёсць тут і стрекат — натуральнае скрыжаванне



*Птушкі берагоў вод.*



*Група аленяў.*

глушца з цецеруком. Чарговая зала на другім паверсе прысвечана жыццю вод. Можна там убачыць баброў, вадзяных птушак, рыб і расліннасць вадаёмаў і іх узбярэжжаў. Апошняя зала прадстаўляе лятучых мышэй, насякомых — шкоднікаў лесу, хваробы дрэў. Упрыгожаннем залы з'яўляецца калекцыя трутных грыбоў, гэтак званых губ, сабраная ў пушчы вядомым савецкім вучоным Паўлам Міхалевічам.

Такім чынам, музей у Каменюках, хоць меншы па плошчы, чым у Белавежы, цікава расказвае аб непараўнальным багацці прыроды Белавежскай пушчы. Колькасць наведвальнікаў цяпер перавышае 100 тысяч чалавек у год, экскурсаводы штогод праводзяць некалькі тысяч лекцый для турыстаў і экскурсантаў на тэмы заалогіі, батанікі, вырошчвання лесу, гісторыі пушчы і зубра, а таксама на розныя тэмы з галіны аховы асяроддзя. На месцы вядзецца таксама продаж сувеніраў і публікацый аб пушчы.

**Чэслаў Аколаў**
Фота аўтара




**Герой Вэстэрплятэ — наш зямляк • Бахуры • Новыя вершы Максіма Танка • Навінкі беларускай філафаніі • Народнае лячэнне • Шчасце і трагедыя • Дзядзька Максім збіраецца на пенсію • Весткі з Варшавы, Беластока, Боцькаў, Дубіч Царкоўных, Белавежы, Бельска, Міхнаўкі, Чаромхі, Гайнаўкі, Орлі • Калі сніцца новая хата • Макарон па-італьянску • Кастусь шукае пілу • Песня „Вечар на рейде".**




**Sobota 19 XI** — 6.40 Tech. Rol. Upr. rośl. (33). 7.10 Mech. rol. (27). 7.40 Upr. rośl. (9). 8.10 Mech. rol. (7). 8.40 Red. szk. zap. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Bajkowy koncert życzeń. 9.55 Z kamerą wśród zwierz. 10.25 Witia, Masza i morska piechota — fab. film radz. 11.30 Wielka gra. 12.20 Opowieści report. 13.05 Radzimy rolnikom. 13.15 Studio 2.

**Niedziela 20 XI** — 6.50 Tech. Rol. Upr. rośl. (9). 7.20 Mech. rol. (7). 7.50 Nasze spotkania. 8.10 Alarm przeciwpoż. 8.20 Now. w domu i zagr. 8.35 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Niewolnicy i lordowie — serial ang. 11.35 Dziennik. 11.50 Rolnicze rozmowy. 12.20 Rzecz muzyczna — Słupsk. 13.10 Bank 440: Kamień Pomorski — Tuchola. 14.15 Pinokio — odc. IV filmu wł. dla dzieci. 15.10 Los. Dużego Lot. 15.20 Piórkiem i węglem. 15.45 Powieść sentymentalna — fab. film radz. 17.15 Dziwny pan — spotkanie z Reną Rolską. 17.40 Teatr Komedii. J. Korzeniowski „Doktor medycyny". 18.35 Bank 440. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Bajka dla dor. 20.40 Polskie drogi — odc. VI. 22.10 Melodie filmu radz. 23.00 Sport.

**Poniedziałek 21 XI** — 12.45 RTV szk. śred. J. pol. (33). 13.25 Fiz. (28). 15.25 NURT — filozof. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Sensacje z przeszłości. 17.00 Dla dzieci. 17.55 Stawka większa niż życie — serial TP. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. J. Szaniawski „Fortepian". 22.20 Camerata. 22.50 Dziennik.

**Wtorek 22 XI** — 6.30 RTV szk. śred. J. pol. (33). 7.00 Fiz. (28). 9.00 Dla kl. I—III Mat. 10.00 Dla kl. III lic. J. pol. 12.55 Dla szkół śred. Rodzina współcz. 13.25 RTV szk. śred. Hist. (2). 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Mł. 17.10 Kółko i krzyżyk. 17.25 Magazyn motor. 17.50 Nie tylko dla kobiet. 18.20 Jaskiniowcy — film anim. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Droga przez mękę — serial radz. 22.05 Sygnały filmowe. 22.35 Spotkanie z medycyną. 23.05 Dziennik.

**Środa 23 XI** — 6.30 RTV szk. śred. Hist. (2). 7.00 Chem. (11). 9.00 Dla kl. VI Fiz. 12.00 Dla kl. VII—VIII Wych. plast. 12.45 RTV szk. śred. Mat. (41). 13.25 Biolog. (23). 15.25 NURT — naucz. począt. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Kto czyta nie błądzi. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Małego Lot. 17.45 Wszystko o filmie — teletur. 18.30 Z przyrodą na Ty. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Lotnik skrzydlaty władca świata — pr. rozr. 21.35 Wyrzuceni na bruk — fiński film fab. 23.00 Dziennik.

**Czwartek 24 XI** — 6.30 RTV szk. śred. Mat. (41). 7.00 Biolog. (23). 12.55 Dla kl. I—IV lic. J. pol. 13.25 RTV szk. śred. Mat. (9). 14.30 Fiz. (6). 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Spoza gór i rzek. 17.00 Dla młodych widzów. 18.00 Reportaż wojsk. 18.20 Sonda. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Sensacji. „Akcja Szarotka" cz. II. 21.45 Pegaz. 22.30 Dziennik. 22.45 Puchar Europy w piosence — pr. rozr. 23.10 Klub Fantastyki Naukowej.

**Piątek 25 XI** — 6.30 RTV szk. śred. Mat. (9). 7.00 Fiz. (6). 11.05 Dla kl. I—III lic. Wych. tech. 12.00 Dla kl. VII Geogr. 12.45 Tech. Rol. Hod. zwierz. (31). 13.25 Mech. rol. (28). 15.25 NURT — psych. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zapraszamy na stadiony. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Poradnik zmotor. tur. 17.45 Historia pewnej kamienicy — serial CSRS. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Gwiazdy patrzą na nas — serial ang. 21.30 Studio T. R. Duncan „Abelard i Heloiza". 22.40 Dziennik. 22.55 Ekran i życie.




**Piątek 18 XI** — 8.00 Film fab. 17.30 Koncert. 21.00 Sport.

**Sobota 19 XI** — 12.15 Film fab. 16.15 W świecie zwierząt. 17.25 Koncert. 17.40 Spektakl. 21.10 Pr. estrad.

**Niedziela 20 XI** — 11.30 Śpiewa K. Lisowski. 12.00 Hokej. CSKA-Chimik (Woskresiensk). 14.30 Panorama międzynar. 15.00 Cyrk. 16.15 Klub film. 17.25 Spektakl. 19.30 Sport.




**Białowieża** Romanca o zakochanych — radz. 22—23. Straszna teściowa — radz. 24—25. Artysta do wszystkiego — radz. 26—27.

**Bielsk Podlaski** Wielka podróż Bolka i Lolka — pol. 22—23. Ostatnia ofiara — radz. 24—25. Sokołowo — czes. 26—27.

**Czeremcha** Premia — radz. 22—23. To niemożliwe — radz. 26—27.

**Czyże** Hełm Aleksandra Macedońskiego — radz. Wielki układ — pol. 23—27.

**Dubicze Cerkiewne** Yuriko moja miłość — radz. Echa dawno minionych lat — radz. 23—27.

**Gródek** Romanca o zakochanych — radz. 26—27.

**Hajnówka** Niezwykłe przygody Włochów w Rosji — radz.-wł. 20—21. Anna i komandor — radz. 22—23. Kamo ostatnia misja — radz. 24—25. Afonia — radz. 26—27.

**Michałowo** Melodie z przedmieścia — radz. 22—23. Dziki pies Dingo — radz. 24—25. Przepustka na ląd — radz. 26—27.

**Mielnik** Staroświecki dramat — radz. 23. Moja wojna, moja miłość — pol. 26—27.

**Mielejczyce** Poławiacze gąbek — radz. 22—23. Monolog — radz. 24—25. Cyrk w cyrku — radz.-czes. 26—27.

**Narew** Cudze listy — radz. 12 krzeseł — radz. 23—27.

**Narewka** Sombrero — radz. Rzut karny — radz. 23—27.

**Nurzec** Dziewięć dni jednego roku — radz. 22—23. Płonąca tajga — radz. 24—25. Porucznik jazdy — radz. 26—27.

**Orla** Kochałem cię — radz. Dziki pies Dingo — radz. 23—27.

**Rajsk** Noce i dnie — pol. 23—27.

B.Z.Graf. Zam. nr 2644 B-4




Клуб Ваяводскай рады прафсаюзаў адзначыў чарговым цікавым вечарам 60-ю гадавіну Вялікага Кастрычніка.

У прытульнай зале кавярні пры святле каляровых прыцьмёных лямпачак, упераменшку з гукамі мелодый савецкіх кампазітараў ідзе прыязная сяброўская размова. За цэнтральным сталом — некалькі сямейных пар, спецыяльна запрошаных на гэты вечар. З імі і вядзе размову Яўген Грынявіцкі, кіраўнік клуба і арганізатар вечара.

Здавалася б, аб чым можна гаварыць з імі ў акружэнні каля 200 наведвальнікаў кавярні? Якія сямейныя справы могуць зацікавіць гледачоў?

Аказваецца, усе запрошаныя пары маюць супольную рысу: кожны муж прывёз сабе жонку з Савецкага Саюза. Іменна гэтую акалічнасць вырашыў выкарыстаць Я. Грынявіцкі, каб бывальцы клуба маглі асабіста пагаварыць з ураджэнкамі розных рэспублік СССР, бліжэй пазнаёміцца з культурай іх народаў, звычаямі, сённяшнім жыццём.

У сяброўскай, прытульнай, амаль дамашняй атмасферы, хоць і ў перапоўненай зале, гаварылася аб Маскве, Ленінградзе, Мінску, Каўказе. Супольна ўспаміналі аб пабыўках у СССР, аб новых знаёмствах, а потым аб дружбе, якая перараджалася ў каханне.

Асаблівую цікавасць выклікала ва ўсіх пара супругаў — Тамара і Францішак. Францішак прывёз сабе жонку з далёкай і прыгожай краіны Дагестан, што ляжыць паміж Паўночным Каўказам і Каспійскім морам. У гэтай, вельмі экзатычнай для нас краіне, як расказвалі сімпатычныя госці, не так проста


Я. Грынявіцкі ўручае кветкі супругам Шакала.


Тамара і Францішак Пайда.

было здабыць сабе жонку: яе трэба было або купіць або ўкрасці. Што ж мог зрабіць бедны студэнт з Польшчы, якога зачаравалі жгучыя вочы і даўжэзныя косы дагестанкі? Любоў — не картошка, як кажуць. Прыйшлося ўкрасці. Але не без згоды дзяўчыны, вядома. І прывёз яе ў Беласток.

Прыемна было ў наш халодны асенні і золкі вечар уяўляць сабе залатую ад шчодрага сонца краіну з чароўна цёплым яшчэ ў кастрычніку (да 25 градусаў) морам. І ніхто не дзівіўся, што Тамара, нягледзячы на немалую нізку гадоў, пражытых у Польшчы, не можа прызвычаіцца да нашай імглістай восені, да марознай зімы. Але за кліматычныя нязгоды адплочвае ёй Польшча цяплом сардэчным, адданай дружбай новых сяброў, шчырым каханнем мужа і любоўю дзяцей.

Аб сардэчнасці, з якой сустрэліся ў Польшчы, гаварылі і іншыя дзяўчаты, прыехаўшыя за мужамі ў Беласток. Усе яны ўжыліся ў нашу сям'ю, жывуць добра, працуюць, карыстаюцца аўтарытэтам сяброў па працы, пашанай у мужоў.

Зноў у зале музыка, песні, жарты. Весела, прытульна. Госці ўсміхаюцца прыязна. Вядома ж, гутарка ідзе аб дружбе, аб першых сустрэчах, аб каханні. Гаспадыні вечара разносяць гасцям прысмакі розных народаў: дыміць рыбная уха на падносах, казыча ноздры пах піражкоў з капустай, зіркае вочкамі разынак салодкі ўсходні плоў...

А потым танцы, танцы... Нашы супольныя, сучасныя, бадзёрыя і вельмі кампанейскія...

(яч)

Фота **К. Свідэрскага**

### ЛІТАРАТУРНЫ ПАЛЕТАК

## АХРЫПЛЫ ГОЛАС ІРЭНЫ БАРАВІК

Паэтычны дэбют Ірэны Баравік на старонках „Нівы", падтрыманы ў далейшым многімі ўданымі творамі, прадказваў сабой паяўленне ў літаратурным жыцці „Белавежы" новай творча цікавай асабовасці. Але дэбют гэта не межы, у якіх павінна змяшчацца ўся далейшая творчасць, гэта не той найвышэйшы ўзровень, якога нельга перасягаць. Якраз наадварот. Дэбют — гэта не што іншае, як парастак з натуральна набрыняўшага зерня, далейшая задача якога — узрастанне аж да спелага коласа. Накладвае ён на паэта абавязак безупыннага ўзнімання на сходах творчасці, пранікаючы ў свядомасць чытача і даследуючы ўласны паэтычны краявід.

Фон творчасці Ірэны Баравік агромністы — ад паэтычных твораў, адлюстроўваючых застаўшаеся ззаду дзяцінства, аж да вершаў-абразкоў, асаджаных на філасофскім падтэксце. І тут напатыкаем першую, хаця, зразумела, не адзіную, надта ж істотную праблему, звязаную з месцам адносін для фарміруючайся філасофіі паэтэсы. Дзе знаходзіцца тая крыніца, з якой выплывае фарміраванне ўласных філасофскіх роздумаў? Найчасцей — гэта чалавек, знаходзячыся на хвалях нястрымнага бязлітаснага часу. Праміnanne, страх перад смерцю ў сваёй традыцыйнай таямнічай каларыстыцы адпаведна ўстаўляюць паэтэсу да адвечных праблем чалавечага быту. І ў сваіх паэтычных мініяцюрах з цыклу „Вобразы" стараецца яна заключыць нейкую сваю ўласную праўду пра чалавека. Але нягледзячы на тое, што гэтыя традыцыйныя элементы будуюць зусім цікавыя вобразы, выразна адчуваецца адзін недахоп, а менавіта адсутнасць выразнай паэтычнай лініі, адлюстроўваючай уласныя перажыванні паэтэсы. Недахоп канкрэтнасці зносіць паэзію Ірэны Баравік на мялізну слоў часта чытачу абыякавых. Звязана гэта перш за ўсё з выбарам тэматыкі. Паэтэса піша:

*Стаю...*
*каля мяне*
*два высокія стаўбы*
*і две сняжынкі*
*відаць у далі*
*куды пайду —*
*там лес густы*
*на небе зоркі*
*цёмна*

Выбар цяжкі для кожнага паэта. Адгэтуль і вывад, што для нашай паэтэсы найбольш спрыяльным і адпаведным з'яўляецца такі выбар, дзе найлепш адлюстроўваліся б уласныя перажыванні, і не было б паўтарэння сказанага і агульна вядомага. У адным я ўпэўнены, што выбар паэтэсы быў трапным, што знайшла яна дарогу ўласцівую, аб чым сведчаць апошнія яе творы (зразумела, не ўсе) лёгка „вылускваючыя" паэтычны сэнс.

Але адначасова шмат твораў з'яўляецца толькі творамі з назвы. У сапраўднасці гэта толькі рамы для пабудовы верша, верша, парываючага з няпэўнасцю ўласна абвяшчаемых праўд. Шкада толькі, што раскрываем творчасць Ірэны Баравік на аснове апублікаваных гэтых рамавых нарысаў, якія нават не заўсёды з'яўляюцца візіяй задуманага твора. Скрыты ў іх талент заблішчыць час ад часу арыгінальнай метафарай ці цікавым паэтычным зваротам і згасне. Пры гэтым выразна відаць нічым неапраўданы поспех. Зусім так, як бы Ірэна Баравік апрацоўвала літаратурны палетак колькасна, а не якасна.

У сваёй паэзіі Ірэна Баравік выразна захапляецца некалькімі паэтыкамі і стараецца ўкладаць іх згодна з існуючай модай. Але гэта натуральны працэс. Заўсёды так ёсць пры пошуках уласнай паэтычнай мовы. Пры гэтым у творчасці Ірэны Баравік можна адшукаць радкі сапраўднай паэзіі, якая тэматычна звязана з дзяцінствам і адлюстроўвае жыццёвы шлях паэтэсы, падпарадкаваны праплываючаму часу і маральным законам. Гэтую адвечную праўду, якую можна знайсці толькі ў дзяцінстве, падтрымоўвае верш „Не магу маліцца, калі ты не прыходзіш". Эротык пабудаваны на правіле адкідвання „дзіцячых праўд". А гэта таму, каб прыклікаць вобраз брутальнай рэчаіснасці паўналецця.

Адшуканне ўласнага голасу, наданне ўражлівасці ўласнаму абліччу — гэта з'яўляецца бадай што першапланавай задачай паэтэсы.

Ірэна Баравік пры гэтым выразна падкрэслівае ўласную ролю. Піша:

*на хрысцінах другога берага*
*заспяваю*
*вялікую песню*
*ахрыплым голасам*

На заканчэнне трэба пажадаць, каб гэты „другі бераг" быў паэтэсе спрыяльнай прыстанню, а не пустыняй, у якой не вырасце зерне, і каб гэты ахрыплы голас вылечыць ціхім, але моцным словам. А велічыня песні гэта не толькі крык.

**Янка Леанчук**




У Шудзялаве, недалёка ад вёскі, на ўзгорку знаходзіцца спартыўная пляцоўка, на якой адбываюцца розныя спартыўныя мерапрыемствы ды гмінныя дажынкі. Там збіраецца з навакольных вёсак многа моладзі ды старэйшых людзей. Гэта пляцоўка з двух бакоў забяспечана ад ветру лесам, а побач знаходзяцца занядбаныя праваслаўныя могілкі, на якіх паламаны і павыварочаны помнікі. Найпазней пастаўлены помнік па нябожчыку з 1935 г — па Ігнасю Казакевічу. А трэба сказаць, што многа помнікаў яшчэ захавалася ў добрым стане. Гэта па нябожчыках Вашкевічу Сцяпану, Вашкевічу Клементу, Фёдару Ганчару, Куршалю Станіславу і іншыя, але гэта ўжо гісторыя.

Вы скажаце, што без патрэбы я аб гэтым пішу, але паслухайце. У верасні ў Шудзялаве адбываліся гмінныя дажынкі, на якіх давялося мне пабываць. Праўда, нашы ГС-ы пастараліся ў гэты дзень давезці ўсякай ўсячыны і таго, чаго кожны дзень не знойдзеш: і цёплыя шкарпэткі, і цёплую бялізну. было многа чаго купіць, выпіць ды закусіць. Калі я ўбачыў, як наша моладзь шануе сваіх дзядоў, мне аж у грудзях забалела, бо наша моладзь, набраўшы поўныя рукі бутэлек ды каўбасы, аблягла могільнік да палавіны. П'юць, ды горла дзяруць, а калі каторага наперла, дык на далейшую частку могільніка падаўся, хаця ёсць пабудаваная ўборная ды сметнік, але туды ніхто не заходзіць. Пакідалі бутэлькі ды паперы, а самі пайшлі.

Як табе адзін з другім і стыду няма! Чаму ты не ўшануеш гэтых касцей, што тут зложаны, тут жа пахаваны можа і твой дзед, можа і заўчасна памёр ён, можа ён пры санацыі прайшоў Картузскую Бярозу, можа ён цярпеў ды змагаўся, трацячы здароўе, каб табе сёння добра жылося, а ты так яго шануеш! Падумай лепш, што трэба зрабіць? Збярыцеся, уся моладзь з кожнай вёскі, ды зрабіце парадак на тым могільніку, няхай вецер з паперамі вашымі не гуляе, ды няхай каровы туды не маюць уваходу. Папрасіце начальніка гміны ў Шудзялаве, а ён напэўна вам дапаможа, хаця б абгарадзіць могільнік. А праз некалькі год будуць прыязджаць турысты з горада, каб пацікавіцца такім могільнікам. Тут жа турыстычны шлях, бо ёсць слаўныя Гаркавічы, дзе жыў Прытыцкі. Непадалёк знаходзіцца татарская вёска Багоннікі з мячэццю.

**Э. Ш.**

### З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

#### ДЗЕСЯТЫ ЭКЗЕМПЛЯР

У Беларусі знойдзены том твораў Мікалая Рэя (Рэя з Нагловіц) — вядомага польскага пісьменніка XVI стагоддзя, які першы пачаў пісаць выключна на роднай мове. Гэта яго тлумачэнні Апакаліпсіса.

Кніга, выдадзеная ў Кракаве ў 1565 годзе, захавалася не поўнасцю. Таму да друкаванага тэксту з другога экземпляра, відавочна ў 1694 годзе, ад рукі дапісаны выразным почыркам восем лістоў. Да больш позняга часу адносіцца і ціснёны скураны пераплёт з металічнымі закрыўкамі.

Па бібліяграфіі твораў Мікалая Рэя, выпушчанай Польскай акадэміяй навук, зарэгістравана толькі 9 экземпляраў гэтай рэдкай цяпер кнігі. Яны захоўваюцца ў бібліятэках Варшавы, Вроцлава, Торуня, Вільнюса і Львова. Том, знойдзены ў Магілёўскай вобласці, як адзначаюць беларускія бібліёграфы, з'яўляецца дзесятым вядомым экземплярам і чацвёртым у Савецкім Саюзе.

#### ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ


*Народная спявачка Надзея Баўкун з вёскі Грабяні гм. Дуброва Беластоцкая.*
*Фота М. Гайдука*

 



• *На працягу васьмі месяцаў гэтага года сяляне Беластоцкага ваяводства купілі 1665 трактараў. Гэта ў пяць разоў больш, чым два гады таму назад, аднак усё яшчэ замала ў параўнанні з патрэбамі.*

(Працяг са стар. 1)




ва ўсходняй частцы Беластоцкага ваяводства. Вось у Трасцянцы, напрыклад, на звыш 300 асталося нейкіх 70-80 сапраўдных гаспадароў.

**НА КААПЕРАТЫЎНЫХ ГОНЯХ**

А зямля там ляжыць аблогам. У Трасцянцы заапекаваўся ёю кааператыўны сельскагаспадарчы камбінат у Нарве. Будуць гадаваць авечак і карміць свіней. Кааператары заняліся таксама пакінутай зямлёй у Рыбалах, Плёсках і Паўлах. Вось у час беластоцкага пленума выступаў і старшыня спулдзельні прадукцыйнай з Паўлаў, Лявон Харытанюк. Гаварыў ён, што на працягу паўтара года дзейнасці кааператары з Паўлаў загаспадарылі звыш 300 га зямлі і спулдзельчае поле безупынку ў іх павялічваецца. Цяпер у Паўлах супольна працуе 16 сем'яў. Маюць намер яны спецыялізавацца ў адкорме букатаў.

А ўвогуле ў Беластоцкім існуе ўжо 40 спулдзельняў прадукцыйных. Дзевяць з іх распачалі сваю дзейнасць у гэтым годзе. У іх супольным уладанні знаходзіцца звыш 15 тысяч гектараў зямлі. У мінулым годзе кааператары падзялілі між сабою 64 мільёны злотых.

**У ПГР-ах**

І ў Бельску, і ў Дабжыневе пад Міхаловам, і ў Крынках — усюды на ПГР-аўскіх сялібах наглядаецца вялікі рух.

У вясковы пейзаж уліліся шматпавярховыя, добра абсталяваныя жылыя дамы. У Крынках ПГР-аўскі пасёлак складаецца ўжо з шасці блокаў, у якіх пасялілася амаль 100 сем'яў.

За свае прадукцыйныя вынікі гэты ПГР атрымаў ад І сакратара Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку спецыяльную падзяку.

**МЕСЦА Ў КРАІНЕ**

Беластоцкае ваяводства займае ў краіне 3,26 працэнта зямельных угоддзяў. Нашы сяляне даюць дзяржаве 3,78 працэнта жывёлы, 2,02 працэнта свіней, 3,1 працэнта малака, 2,9 працэнта яек.

Падумайце над гэтымі лікамі. Яны пераканаўча паказваюць, што мы яшчэ не выкарыстоўваем сваіх магчымасцей і аглядаемся на гаршочак з іншых раёнаў краіны. Асабліва нізкі наш удзел у прадукцыі збожжа. Складае ён ледзь 1,32 працэнта.

Праўда, мы ўсё яшчэ адрабляем даўнейшую гаспадарчую адсталасць. Колькі аднак часу будзем спасылацца на гэтую адсталасць!? Чаму, для прыкладу, сярэдні паказчык па прымяненні мінеральных угнаенняў у нас на Беласточчыне аж на 50-70 кілаграмаў ніжэйшы ад агульнапольскага ўзроўню? Чаму тэхнічнае забеспячэнне (машыны, трактары і прылады) нашых сялян далёка недастатковае? Ці часам не больш ад самых хлебаробаў вінаваты ў гэтым арганізатары сельскагаспадарчай вытворчасці?

Партыйнае і дзяржаўнае кіраўніцтва нашай краіны стварыла ўсім сялянам спрыяльныя ўмовы для плённай працы. Ад саміх сялян, ад грамадскіх, гаспадарчых і палітычных дзеячоў у гмінах залежыць цяпер, як яны выкарыстаюць гэтыя спрыяльныя ўмовы, бо змаганне за хлеб і мяса не толькі пачынаецца і канчаецца на сялянскім полі.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

## Новы этап у рэформе асветы

(Працяг са стар. 1)

Адны такія двухгадовыя школы рыхтавалі б кандыдатаў у вышэйшыя школы, іншыя давалі б прафесію і накіроўвалі новыя кадры ў народную гаспадарку. Але гэта патрабуе таксама пэўных змен і ў вышэйшым школьніцтве. Кангрэс выразіў згоду на стварэнне спецыяльных школ для менш развітых дзяцей.

Ад імя ўсіх настаўнікаў кангрэс звярнуўся да ўсяго нашага грамадства з просьбай актыўна ўдзельнічаць у вялікай справе аднаўлення нацыянальнай сістэмы адукацыі.

Думаю, што актыўна дапамагаць школе выхоўваць нашых дзяцей — гэта не толькі наша добрая воля, але вялікі грамадскі абавязак.

**Яніна Чэрнякевіч**

*Разведка* ГАСПАДАРНАСЦІ

**У Гайнаўскай гміне**

**ЯК ТРАПІЦЬ У ЛІПІНЫ?**

Нялёгка трапіць у Ліпіны, едучы з Гайнаўкі. А гэта ж блізкая прыгарадная вёска. Адсюль добра відаць жыллёвыя пасёлкі і фабрычныя коміны Гайнаўкі.

Вось, каб даехаць у Ліпіны, трэба ехаць праз край Белавежскай пушчы. Але за могільнікам урываецца асфальтаваная дарога. Далей дарог і дарожак не пералічыць: вузкіх і яшчэ вузейшых, прамых і з крутымі паваротамі ды ў розныя бакі. Найгорш на скрыжаванні дарог. Паедзь направа — у Будах апынешся, а калі налева — дык на прыпушчанскія палі даедзеш, толькі не ў Ліпіны. Гэта ўсё таму, што няма тут дарожных указальных знакаў. (Мы не бачылі ніводнага). Блудзілі па пушчы, ажно павярнулі назад і зайшлі ў леснікову хату, і там нам паказалі, як трэба ехаць.

У Ліпінах ёсць дошка з назвай вёскі, але якая! Сорам на яе глянуць: ужо паіржавелая.

Неабходна, каб солтыс вёскі Ліпіны неадкладна паведаміў аб спамянутых недахопах гмінным уладам у Гайнаўцы, ды каб тыя зацікавілі адказныя за гэта ўстановы. Толькі чаму солтыс не дадумаўся зрабіць гэта раней? **(Я. Ц.)**




## Багацця нажыўся і ў магілу паложыўся

Цяпер нашы людзі ездзяць наведаць розныя краіны. Але большасць іх едзе не на тое, каб пазнаць краіну, а каб багацця нажыцца. І вось нядаўна з Саколкі паехаў В. А. з жонкай, якая працавала ў гміне ў Шудзялаве і дзвюма дочкамі. Паехалі яны ў Балгарыю і Румынію, каб што добрае купіць, а грошай падзапасілі нямала і паехалі ўсёй сям'ёй, ды сваёй машынай.

Праўда, павялося ім вельмі добра. Купілі чатыры кажухі, 12 залатых пярсцёнкаў. Вельмі рады былі, што пакупка ўдалася. Але радасць была кароткай. Калі ехалі назад, а былі ўжо змучаныя, недалёка ад хаты, каля Замброва, іх машына ўдарылася ў самаход-халадзільнік, які ехаў з Беластока. Жонка і дзве дачкі загінулі на месцы, а Вацлава, цяжка параненага, хуткая дапамога адвезла ў Беласток, дзе праз пяць дзён памёр і ён. Вось табе, багацця нажыў і ўсю сям'ю ў магілу палажыў.

**Віт**




*...многія старажылы Чаромхі ўспамінаюць, быццам даўней час можна было акрэсліць па руху паяздоў. Яны тады хадзілі, як самы лепшы гадзіннік.*

*А зараз цягнікі ў нас ходзяць, як ім падабаецца. І так амаль кожны дзень і ва ўсіх напрамках.*

*Няўжо цяперашнія чыгуначнікі затрацілі даўнейшую дакладнасць сваіх бацькоў і дзядоў?*

**(к-ус)**




## Хведар Банцарэвіч

Жыве ён са сваёй жонкай Геняй на хутары ў Вейках, што ў Гарадоцкай гміне. Згодная і працавітая гэтая сям'я. Жонка больш займаецца дабыткам, муж апрацоўкай зямлі. Добра гаспадараць. Маюць шмат сельскагаспадарчых машын, уключна з уласным трактарам. Спецыялізуюцца ў жывёлагадоўлі. Маюць 8 дойных кароў. Кантрактуюць малако. Згодна з планам, іх норма продажу малака дзяржаве — 18 тыс. літраў. Але норма будзе значна перавыканана. Банцарэвічы гавораць, што ў бятучым годзе прададуць дзяржаве малака не менш як 25 тыс. літраў.

Але не толькі добрым пастаўшчыкам малака з'яўляюцца Банцарэвічы. Прадаюць яны таксама шмат мяса. Цяпер на адкорме ў іх 4 ялоўкі і 5 цялят.

Трэба сказаць аб тэхнічна-будаўнічых здольнасцях Хведара Банцарэвіча. Пачнем ад панадворка. На яго сялібе звяртае на сябе ўвагу вялікі жывёлагадоўчы будынак. Высокі, доўгі і шырокі, з шырокімі дзвярыма з аднаго боку і з шырокім праездам у шчытавых сценах. З двух бакоў гэтага праезда ёсць спецыяльныя месцы для жывёлы. Нанерадзе іх ёсць абсталяванні на корм і аўтаматычныя паілкі, у якія цячэ вада з калодзежа пры дапамозе гідрафора. І вось усё гэта сам зрабіў Хведар Банцарэвіч. Сам пабудаваў ён гэты велізарны, сучасны будынак, сам яго пакрыў, зрабіў сталярку, выканаў гідраўлічныя работы, звязаныя з абсталяваннем аўтаматычных паілак. Раней ён сам пабудаваў хату, у якой выцацкаў веранду.

Вядомы ён у сваёй ваколіцы і як дасканалы майстар бетонных стаўбоў для стадолаў. Многім сялянам аказаў ён палёгу ў гэтай галіне. І яшчэ ў адной галіне з'яўляецца ён добрым спецыялістам. Умее рамантаваць сельскагаспадарчыя машыны: трактары, снопавязалкі, капаркі, касілкі і іншыя машыны і прылады. Удзячны яму за гэта сяляне.

Тэкст і фота **Міхася Хмялеўскага.**



# НОВАЕ ПРА ЛЕАПОЛЬДА РОДЗЕВІЧА

(Працяг са стар. 1)

На здымку над сталом, на сцяне, відаць нейкія партрэты ў салідных рамах. З паясненняў пані Яніны мы даведваемся, што гэта партрэты Мельхіёра і Юліі Яноўскіх — дзедка і бабулькі Яніны, Ядвігі, Марыі, Чэслава і Леапольда Родзевічаў. У Кур'янаўшчыне свята захоўваўся ўспамін пра тое, як нягледзячы на небяспеку трапіць у Сібір, Мельхіёр Яноўскі ў 1863 годзе нас ў патаемна харчы паўстанцам, што хаваліся непадалёк ад Кур'янаўшчыны ў ямах пасля бульбы. Бацька іх, Ян Родзевіч, паходзіў з сям'і збяднелай шляхты, што арандавала па-суседску з Яноўскімі невялікі фальварак. У пасагу за дачкою Яноўскіх, Галенай, ён і ўзяў фальварак Кур'янаўшчыну з яе чатырма валокамі зямлі, домікам-дворыкам пад цяністымі старымі дрэвамі, старым садам і... вольнадумнымі традыцыямі, у якіх потым і выхоўвалася ўся пяцёрка іхніх дзяцей.

І тут нам удаецца запоўніць адзін з прабелаў у біяграфіі Леапольда Родзевіча — дакладную дату яго нараджэння, якая не была дагэтуль вядома даследчыкам яго дзейнасці. **Нарадзіўся Леапольд Родзевіч 12 чэрвеня 1895 года.** Спачатку вучыўся ў народным вучылішчы ў Крайску (адтуль адзін з яго псеўдонімаў „Крайскі"), а потым у Вілейцы. Вельмі рана выявіліся яго зацікаўленні кнігамі, асабліва гістарычнымі, і маляваннем. Тады, відаць, і пачало фармавацца яго зацікаўленне да свайго роднага краю, беларускага народу і яго культурнай спадчыны.

Праўда, пані Яніна свае непасрэдныя ўспаміны пра Леапольда змагла давесці толькі да 1907 года, калі яна выйшла замуж за Аляксандра Юзэфовіча і разам з ім выехала на Каўказ, на месца яго працы, і там пражыла да 1921 года. Але з лістаў, пазнейшых успамінаў родных і знаёмых яна ведала, што пасля заканчэння Вілейскага гарадскога вучылішча ў 1909 годзе, Лёлек падаўся ў Вільню. Там ім заапекаваўся старэйшы брат Чэслаў і дзякуючы гэтаму Леапольд здабыў экстэрнам сярэднюю адукацыю. Чэслаў быў вельмі добра знаёмы з тагачасным беларускім творчым асяроддзем у Вільні, у яго ён увёў і Леапольда. Ужо ў 1911 годзе пачалі паяўляцца допісы і вершы Леапольда Родзевіча ў „Нашай ніве", значыць, ён пачаў пісаць, калі яму было ўсяго 16 год. Разам з усімі віленскімі беларусамі захапляліся браты Родзевічы гасціннымі выступленнямі самадзейнага тэатра Ігната Буйніцкага і нават самі спрабавалі сваіх акцёрскіх здольнасцей на гэтай сцэне. Відаць, тут крыецца першапрычына зацікаўлення Л. Родзевіча драматургіяй.

У 1917 годзе Лёлек нечакана прыехаў у гасціну да Юзэфовічаў на Каўказ. Хацеў падлячыць свой хворы стрававод, пабыць з сястрой і яе сям'ёю, адпачыць. Ён знайшоў працу ў нейкім кандытарскім кааператыве, а ў вольны час забаўляўся з сястрынымі малымі, многа чытаў, рабіў сатырычныя замалёўкі вуглём, вандраваў па гарах, лячыўся мінеральнымі водамі. Але гэта працягвалася нядоўга. Ізноў ён апынуўся ў гушчы падзей на беларускай зямлі.

Сустрэлася з ім пані Яніна аж праз пяць год, калі, вярнуўшыся з мужам і дзецьмі з далёкага Каўказа, часова жылі яны ў нанятай кватэры на вуліцы Ласёвай у Вільні. Лёлек з'явіўся цалкам нечакана, шапнуў сястры і швагру, што мусіць у іх перахавацца нейкі час ад паліцыі. Прабыў, не выходзячы з дому, некалькі дзён і зноў падаўся некуды. Хоць і выпытвала сястра, як яму вядзецца і чым ён займаецца, але Лёлек быў чалавекам надта скромным, не любіў расказваць аб сабе і сваіх занятках.

Гэта была апошняя сустрэча пані Яніны з братам Леапольдам. Яе мужу ўдалося атрымаць пасаду таксатара на чыгуначнай станцыі ў Лынтупах каля Свянцянаў. Там Юзэфовічы абсталяваліся надоўга, пабудавалі домік і пражылі аж да 1945 года. Уся сям'я Родзевічаў — бацькі і дзеці — жыла ў БССР. Недзе каля 1930 года памерла ў Кур'янаўшчыне Галена Родзевіч, аўдавеўшы Ян Родзевіч пераехаў жыць да сына Чэслава ў Мінск. Пажыў ён нядоўга, памёр у 1933 годзе, і Чэслаў пахаваў яго на мінскіх могілках „Залатая горка". Па іншых гарадах СССР рассыпаліся сёстры. Усе яны трагічна загінулі, у жывых асталася з усяе пяцёркі толькі пані Яніна.

У 1945 годзе Юзэфовічы з дачкой Юліяй прыехалі да дзяцей, што жылі і працавалі ў Польшчы: сын Роберт спецыяліст па паравозным дэпо ў Лапах, а дачка Элеанора настаўніца каля Вроцлава. Пасяліліся ў Элку, муж працаваў



 

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Тры гады таму назад выйшла я замуж. Маем паўтарагадовую дзяўчынку, муж добра зарабляе і матэрыяльна жывем нядрэнна. Муж мой прыстойны, прыгожы, ветлівы. І, шчыра кажучы, калі мы пазнаёміліся, я не спадзявалася, што ажэніцца ён са мной. Усюды, дзе б мы ні былі, позіркі дзяўчат кіраваліся ў яго бок. Муж мой добры, калі прыдзе з работы, у хатняй працы мне памагае, вельмі любіць малую. Але я ўсё не ўпэўнена, ці верны ён мне. Ён жа па-за домам цэлы дзень. Падазрэнні мае яшчэ больш узраслі пасля таго, калі аднойчы ішлі мы вуліцай і муж мой вельмі ветліва пакланіўся нейкай маладой, прыгожай бландзінцы. Аж у сэрцы мне закалола. Я насупынілася, не адзывалася да мужа. Ён тлумачыўся, што дзяўчына працуе з ім разам. Але няхутка я прыйшла да сябе. Мала мы дзе бываем, бо дзіцяці няма з кім аставіць. Але аднойчы была на прадпрыемстве, дзе працуе муж, вечарына, вось мы і пайшлі. Муж час ад часу браў танцаваць іншых жанчын і дзяўчат. Я, праўда, таксама не сядзела, але не магла глядзець на гэта, як яны ўсміхаюцца. Знервавалася, і пайшлі мы дамоў. Муж быў на мяне злосны, мы нават пасварыліся. Мне здаецца, што муж павінен быць з жонкай, а не займацца іншымі. Муж аднак кажа, што ў кампаніі трэба гуляць з усімі. А што ты, Сэрцайка, скажаш?

Ірэна з Бельшчыны

Ірэна! Згаджаюся з тваім мужам і не бачу нічога дрэннага ў яго паводзінах. Ты проста празмерна зайздросная. Можа гэта таму, што не працуеш ты на прадпрыемстве. Людзі, якія працуюць разам, ствараюць таксама сям'ю, яны ж спатыкаюцца на штодзень і становяцца сабе блізкімі. Ты мусіш ваяваць сама са сваёй зайздрасцю. Бо яна можа сапсаваць добрыя адносіны ў тваёй сям'і. Ды і яшчэ адна небяспека выплывае з празмернай зайздрасці, гэта тое, што нават вернага мужа, калі так беспадстаўна ўсё асуджаць у здрадах, можна да іх справакаваць.

**Сэрцайка**

## Ці ведаеце, што...

...у нашай краіне жанчыны вядуць 722 тысячы гаспадарак.

...у Польшчы гурткі вясковых гаспадыняў (КГВ) дзейнічаюць у 36 000 вёсак і аб'ядноўваюць 1 мільён 300 тысяч вясковых жанчын.

...у нашай дзяржаве цэнтры „Сучасная гаспадыня“ дзейнічаюць у 1 700 гмінах.

**(ця)**

## Фота па заказу BONEY M.



**Заказвалі** Міраслаў Малашэўскі, Раман Васілюк, Міраслаў Рыжык і Раман Рыгаровіч з Гайнаўкі.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: З Я. здарыўся няшчасны выпадак у часе працы на дзяржаўным прадпрыемстве. Лячыўся ён чатыры месяцы ў бальніцы, а пасля амаль паўгода ў хаце. Лекарская камісія прызнала 15 працэнтаў трывалай утраты здароўя, і прадпрыемства выплаціла яму 7500 зл. кампенсацыі. Шкода, аднак, значна вышэйшая. Прадпрыемства тлумачыць, што кампенсацыі належыцца 500 зл. за 1 працэнт трывалай утраты здароўя і больш яны плаціць не могуць. Вінаватым за няшчасны выпадак быў прызнаны брыгадзір, які быў за гэта прыгавораны судом. Ці можна патрабаваць далейшай кампенсацыі ад брыгадзіра, калі сапраўды прадпрыемства не можа выплаціць больш?

АДКАЗ: Закон з 12 чэрвеня 1975 г. аб павіннасцях, звязаных з няшчаснымі выпадкамі пры працы і прафесіянальнымі хваробамі, прадбачыць кампенсацыю за кожны працэнт урону здароўя — 500 зл. Выплаціць больш прадпрыемства не можа. Не належыцца таксама далейшая кампенсацыя з сацыяльнага забеспячэння. Адносна кампенсацыі ад брыгадзіра, па віне якога ўзнікла шкода, то яго адказнасць залежыць ад таго, ці выклікаў ён выпадак наўмысна, ці незнарок. У першым выпадку можна было б патрабаваць ад брыгадзіра кампенсацыі ў частцы шкоды, не аплачанай прадпрыемствам. Калі ж выпадак выкліканы незнарок, то правілы кодэкса працы (арт. 120) забараняюць пацярпеўшаму патрабаваць кампенсацыі ад працаўніка прадпрыемства, які адказвае за гэты выпадак.

## Вер — не вер

Сніцца мне нейкая вада. І па гэтай вадзе плывуць булачкі, а на адной з іх плыву я. І раптоўна, невядома чаму, пачала я ссоўвацца з гэтай булачкі. У ваду я не ўпала, але заўважыла, што вады вельмі мала. Вада была цёмная і на двары было таксама цёмна.

Валя

Астронку, я чалавек, як кажуць, няп'юшчы, але часамі здараецца выпіць, што тут граха таіць. Але каб прысніліся такое ў сне?... Быццам быў я ў нейкай вялікай гасціне, быў проста цэлы пір. Было шмат знаёмых твараў; сяброў. Але быў я такі п'яны, што проста зваліўся (куды — не памятаю). Што ж бы гэта магло абазначаць?

Юрка

**Валя!** Не хачу цябе пужаць, але можаш мець нейкія клопаты фінансавага характару. Не пераймайся: усё ж не хлебам адзіным чалавек жыве!..

**Юрка!** Пір... Чакае цябе нейкая сумная падзея, хвароба, а можа нават нейкія пахараны. Тое, што ты бачыў сябе ў сне п'яным, абазначае нейкую ўтрату, паніжэнне, беднасць. Нядобры твой сон.

**Астрон**

## Куток практычных ведаў

### ЯК АПРАНАЮЦЦА СЁННЯ ХЛОПЦЫ

Апранаюцца ў кожным разе зусім інакш, чым калісьці. Куды і падзеўся той даваенны стэрэатып, калі элегантны хлопец вымушаны быў хадзіць у белай кашулі і цёмным касцюме?

Сённяшнюю моду хлопцаў характарызуе свабода, а можа ў нейкай ступені і нядбаласць (намераная). Гэтая нядбаласць не азначае, зразумела, неахайнасці, проста носіцца ўсё інакш.

Перш за ўсё — не тыя, што калісь матэрыялы. Сёння — тэхас, вельвет, лён, баваўна запаланілі свет. Запаланілі ў тым сэнсе, што на сусветных рынках гэтыя матэрыялы сталі намнога даражэйшыя ад штучных, сінтэтычных. У нас, на шчасце, пакуль што яны не такія дарагія.

Гляньце на нашы здымкі: ці ж не сімпатычна выглядае хлопец у джынсах, спартыўнай кашульцы ў палоску і жылеце ў клетку з фланелевага ці ваўнянага матэрыялу?! Кашулька са стоячым каўнерыкам, яе можна апранаць як у штаны, так і наверх. Проста, лёгка і прыгожа!

**Сяброўка**








9

З лодкі бачылі прыжок лётчыка і падзенне самалёта. Капітан-лейтэнант Паулік загадаў вылавіць парашутыста з вады. Калі ён пазнаў палкоўніка фон Хаселя, то ад здзіўлення не мог вымавіць ні слова. Што гэта павінна азначаць? Спачатку ён, Паулік, патапіў нямецкае судна, потым іх атакуе нямецкі самалёт і, нарэшце, з самалёта выпрыгнуў палкоўнік, якога ён бачыў у адмірала! Паулік думаў, што ён вар'яцее.

Фон Хасель, уздрыгваючы ад сырасці і холаду, адразу ж закрычаў на камандзіра падлодкі:

— Вы што, звар'яцелі? Якое права вы мелі па мне страляць?

Такая нахабнасць вярнула Пауліка да рэчаіснасці.

— Але гэта вы, нягледзячы на апазнавальныя ракеты, атакавалі мой карабель, гер оберст! Я патрабую неадкладна растлумачыць...

— Мяне не цікавіць, што вы там патрабуеце! — зноў закрычаў палкоўнік, але, заўважыўшы обер-лейтэнанта Нормеера і матросаў, якія сабраліся навокал, стрымаўся і патрабаваў у Пауліка тлумачэння сам-насам.

Яны спусціліся ў кают-кампанію. Там, ля ўваходу, ляжаў Кудзель Блок. У час схваткі з „Юнкерсам“ ён страляў з цяжкага кулямёта, і чарга з самалёта прашыла яму левую руку. Адзін з матросаў рабіў Кудзелю перавязку.

— Вельмі балюча, Блок? — спытаў Паулік...

— Нічога, гер капітан-лейтэнант. — Кудзель спрабаваў усміхнуцца перакошаным ад болю тварам.

Калі фон Хасель і Паулік засталіся адны, палкоўнік загаварыў па-ранейшаму задзірліва. Між іншым яму нічога больш не заставалася. Пасля ўсяго апынуцца тут, на лодцы Пауліка, — не, гэта ніяк не ўваходзіла ў яго разлікі.

— Вам было загадана ні ў якім разе не ўсплываць. Чаму вы не выканалі загад, капітан-лейтэнант?

— Але ж я замест ворага патапіў...

Палкоўнік абарваў яго ўзмахам рукі:

— У загадзе сказана: ні пры якіх акалічнасцях не ўсплываць! Ні пры якіх, зразумелі? Ці ведаеце вы, шаноўны, што вы нарабілі сваім учынкам?!

— Але ж я не мог інакш. На „Мемелі“ было тысяча дзвесце нашых цяжкапараненых!..

— Не глядзець, а рухацца неадкладна на захад — вось што ад вас патрабавалася! Зразумела? А вы безадказна парушылі загад!

Капітан-лейтэнант пахіснуўся, здавалася, ён страціць прытомнасць. Быццам маланка, пранеслася раптоўная думка, страшэннае падазрэнне перахапіла горла: няўжо яму, Пауліку, было даручана патапіць іменна свой, нямецкі, санітарны параход?!

— Гер оберст, вы ж не хочаце сказаць, што я... што „Мемель“... Гэта злачынства, гер оберст!

Палкоўнік зразумеў, што дапусціў промах. Ён рэзка загадаў Пауліку ўзяць курс на сваю базу, перадаць яму сакрэтны код адмірала. Трэба паслаць важную радыёграму. Паулік падпарадкаваўся. Адчыніўшы дзверы кают-кампаніі, ён даў каманду пагружацца, але потым, калі лодка пайшла ў глыбіню, заявіў дрыжачым голасам, што патрабуе ад палкоўніка тлумачэння. Без гэтага ніякіх яго загадаў ён больш выконваць не будзе, і ніякія пасведчанні вярхоўнага камандавання тут не дапамогуць.

Падумаўшы, фон Хасель адважыўся сказаць капітан-лейтэнанту праўду. Нарэшце, гэта апошні шанц прыцягнуць камандзіра на свой бок і вярнуцца на бераг. Так Паулік даведаўся, што патапленне „Мемеля“ ўваходзіла ў склад буйнага прапагандысцкага мерапрыемства. Калі франтавікі даведаюцца, што рускія патапілі нямецкі лазарэтны транспарт з цяжкапараненымі, гэта зробіць моцнае ўражанне. Салдаты павінны зразумець, што рускія, якія топяць параненых, нікога не бяруць у палон. Гэта не толькі ўзніме баявы дух арміі, але і зробіць вельмі станоўчы ўплыў на настроі тылу.

— Чаму ж выбралі судна, перапоўненае людзьмі?

У хрыплым голасе Пауліка гучалі слёзы.

— Ну, гэта па-за маёй кампетэнцыяй, — палкоўнік паціснуў плячыма. — Загад вярхоўнага камандавання быў дакладны.

Паулік апусціў галаву:

— А фюрэр аб гэтым ведаў?

— Не будзьце дзіцём, капітан-лейтэнант! — губы фон Хаселя іранічна крывіліся. — Вядома, фюрэр у курсе ўсіх аперацый вярхоўнага камандавання.

Паулік адвярнуўся. Ён адчуваў сябе ўшчэнт раздаўленым. Усё, што было для яго святое, траціла ўсялякі сэнс. Афіцэрскі гонар, салдацкі абавязак — усё гэта рушылася, як картачны домік. Узрушаны стаяў Паулік над руінамі. Яго кальнула жудасная думка, што ён, Паулік, — зброя ў руках злачынцаў.

**(Працяг будзе).**

# ТРЫБУНА чытачоў

## Сустрэча старэйшых

Ужо сталі традыцыяй у паравозным дэпо ў Чароўсе такія сустрэчы. Арганізуе іх кожны год рада прафсаюза чыгуначнікаў.

У гэтым годзе сустрэча пенсіянераў, былых працаўнікоў паравознага дэпо і іх жонак, адбылася ў палове кастрычніка. Было запрошана каля 150 асоб. Усе не прысутнічалі, аднак удзельнікаў сустрэчы хапіла, каб заняць усю залу „Калеяжа“. Сапраўднае чыгуначнае вяселле! Сталы гнуліся ад яды. Плылі песні, іграў духавы аркестр, а пасля пад гармонік Міколы Маеўскага круціліся пары. Знайшліся і салісты. Сапраўды сяброўская сустрэча. Шкада, што толькі раз у год яна арганізуецца і то ў адной службе. А мо і ў іншых службах ПКП варта падумаць аб такіх сустрэчах? **(ус)**

## Аб кляшчэлеўскім СКР-ы

Кляшчэлеўскі СКР карыстаецца няслаўнай рэпутацыяй. Вось што гаворыць Алесь К. з вёскі Чаромха: „Калі мы падлягалі сельскагаспадарчаму гуртку ў Дашах, заўсёды атрымлівалі розныя машыны для апрацоўкі сваіх зямель. Зараз трэба быць шчасліўцам, каб нейкая сельскагаспадарчая машына з Кляшчэлеўскага СКР-у трапіла ў нашу вёску. А калі і прыдзеліць нешта, дык гэта лом, а не машына. Нядаўна далі нам малацільны агрэгат. А як ён працуе?! Возік для перавозкі матора паламаны, на трох калёсах. Чацвертае абматанае дротам, каб не разляцелася. А пасля малацьбы трэба яшчэ цэпам малаціць, бо зерне ў каласах застаецца. Аж сэрца шчыміць ад болю, гледзячы на такое марнатраўства. Дык што рабіць, малаціць уручную?“

І яшчэ адзін факт сведчыць аб нядбайнасці чыноўнікаў кляшчэлеўскага СКР-у. Малацільшчыку неадноўчы прыходзіцца „цыганіць“ алей для матора ў аднавяскоўцаў, таму што ім яго не забяспечваюць у Кляшчэлях. А ці так быць павінна? **(ус)**

## Гаспадар

Міхасю Валкавыцкаму з Забалотчыны 28 гадоў. Ён супольна з бацькамі вядзе 8,5-гектаровую гаспадарку. Спецыялізуецца ў гадоўлі быдла. У гэтым годзе ён атрымаў карту спецыялістычнай гаспадаркі. У 1981 годзе хоча атрымаць 2500 літраў малака на 1 га і 250 кг мяса на 1 га. Палавіна гаспадаркі прызначана на зяленіну.

Ужо ў бягучым годзе Міхась Валкавыцкі атрымаў 29 цэнтнераў з гектара чатырох асноўных збожжавых культур. Высявае 240 кг мінеральных угнаенняў у чыстым складзе на 1 га. Гадуе 141 шт. быдла на 100 га і 110 шт. свіней. Многа працуе ў кааператывах. З'яўляецца членам надзорных радаў ГС і БС, сакратаром надзорчай рады ў СКР. За сваю працу і дасягненні Міхась Валкавыцкі быў выбраны старастам гмінных дажынак у Нараўцы.

**А. З.**

## „Бітва пад Цэдыняй“ у Белавежы

Спадабалася польскім кіназдымшчыкам Белавежская пушча. У апошнія гады перажывае яна сапраўдны налёт людзей з камерамі. Рэалізаваліся тут і рэалізуюцца ў далейшым дакументальныя, мастацкія, тэлевізійныя фільмы. Вось нядаўна пісаў я, што ў Белавежы рабіў здымкі да тэлевізійных перадач Міхал Сумінскі, потым Андрэй Кастэнка. Цяпер хачу паведаміць чытачам аб рэалізацыі ў Белавежскай пушчы здымкаў да фільма „Бітва пад Цэдыняй“. Фільм гэты, сцэнарый якога напісаў Андрэй Шчэпка, а рэжысёрам з'яўляецца Кшыштаф Рыге, будзе першым з цыкла 14-гадзінных мастацка-дакументальных фільмаў. Цыкл будзе названы „Польскія бітвы“.

Здымкі да „Бітвы пад Цэдыняй“ рабіліся на тэрыторыі Белавежскай пушчы ў многіх месцах: на Падцэркві, ва ўрочышчы Старая Белавежа, на Белавежскай паляне.

**П. Байко**

### СТАДЫЁН У НАРАЎЦЫ...

...быў пабудаваны грамадскім чынам. Спярша апекавалася ім гміна, потым школа. Былі розныя клопаты. Пасвіліся тут гусі, авечкі, каровы і коні. Суседзі разрывалі сетку, каб можна было ўпусціць жывёлу на стадыён.

А вось знайшоўся сапраўдны гаспадар. Стадыёнам заняўся Цэнтр спорту і адпачынку ў Нараўцы. Паставілі новыя прыгожыя лаўкі, паправілі агароджу. У далейшай праграме — поўнае загаспадаранне стадыёна, які будзе служыць развіццю спорту ў гміне.

**А. З.**

### МАЙСТЭРНЯ ЯБЛОНСКІХ

У Бельску на вуліцы Свярчэўскага змяшчаецца майстэрня Казіміра Яблонскага па рамонту гадзіннікаў. Трапіў я сюды з трыма сапсаванымі гадзіннікамі, якіх у Беластоку не хацелі ад мяне нідзе прыняць. Майстар Яблонскі прыняў ад мяне ўсе гадзіннікі. Аказаўся надзвычай ветлівым чалавекам. Пільна патрэбны мне будзільнік направіў адразу.

З Казімірам Яблонскім у яго майстэрні працуе разам жонка Марыя. Сваю майстэрню ў Бельску гэтыя людзі вядуць ад 1965 года. Раней Яблонскі працаваў на гаспадарцы. Прафесіі гадзіннікавага майстра навучыўся ад свайго дзядзькі і з кніжак, а жонка навучылася ад мужа. Яна па прафесіі настаўніца, але ўжо чуць не гадзіннікавы майстар. Майстэрня Яблонскіх у Бельску карыстаецца добрай апініяй жыхароў Бельска і навакол.ц. Хацелася б сустракаць часцей такіх людзей і такіх майстроў.

**Ул. Сідарук**

### СТЫД АТРЫМАЦЬ ТАКІ КВІТ

Калі якая ўстанова выдае каму якую квітанцыю, дык прысылае кусок паперы, дзе ёсць месца, каб напісаць за што заплаціць, каму і калі. І многім установам хапае паперы на парадачныя квітанцыі, а вось солтысу не хапае. Калі селянін плоціць у солтыса, атрымлівае ад яго квітанцыю велічынёй 2 см Х 10 см. На такім кусочку няма дзе і напісаць таго, што трэба, і ён стараецца пісаць на адной старонцы суму, а на другой адрас.

У фінансавых аддзелах кажуць нам, што гэтую квітанцыю ад падаткаў трэба захоўваць, як дакумент, 10 гадоў. А вазьмі захавай такі ласкуцік паперы. Як многа валяецца і марнуецца ў нас паперы! І аж дзіўна, што фінансавым органам не хапае яго на парадачныя квітанцыі.

**Віт**

### У ДРУЖНЫМ КАЛЕКТЫВЕ

Зборная гмінная школа ў Дубічах Царкоўных на сваім школьным агародзе ў гэтым годзе сабрала нядрэнны ўраджай бульбы. Накапалі яны 4,5 тоны. У адзін сонечны прыгожы дзень усе школьнікі са сваімі выхавацелямі рашылі выкапаць бульбу. Капачка з дубіцкага СКР-у капала бульбу, а школьны калектыў збіраў і ссыпаў у спецыяльныя мяшкі. У той самы дзень бульбу прадалі на мясцовым пункце скупкі. Такім чынам школа зарабіла 9.450 зл. Грошы прызначылі на школьныя патрэбы: на экскурсію, узнагароды і г.д.

У арганізацыі гэтай важнай працы многа дапамаглі члены бацькоўскага камітэта, асабліва Ян Хіліманюк і Ул. Зубар, а таксама ўвесь настаўніцкі калектыў на чале з дырэктарам Янам Копчукам.

**М. Панфілюк**

## Ізноў на Смычковую

Зноў запоўніліся нашы вучылішчы. Пасля летняга адпачынку студэнты вярнуліся на заняткі. Таксама ажыў наш інтэрнат на Смычковай у Варшаве. У чысценькія пасля рамонту пакоі вярнуліся іх жыхары. Усё яшчэ снуюцца летнія ўспаміны, але ў вокнах да позняй ночы гараць агні. Поўнай парай ідуць заняткі.

Нават студэнты першага курса маюць ужо многа сяброў. Яны былі на практыцы і там пазнаёміліся.

Сёлета на першым курсе беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта 10 асоб. Усе яны купілі патрэбныя падручнікі і з першага дня ўзяліся за работу. Перад імі — тайны навукі.

**Ірэна В.**

## Бар пад парасонам

У Кляшчэлях, на плошчы ГС-аўскіх складаў, ёсць спажывецкі кіёск, у якім таксама прадаецца піва. Калі б я не заглядаў на ГС-аўскія склады, заўсёды бачу малюнак: кіёск акружаны аматарамі піва.

Праз шашу знаходзіцца ПОМ, у якім вучацца і прысвойваюць прафесію трактарыстаў, механікаў вучні. І з сумам трэба адзначыць, што ля кіёска заўсёды шмат вучняў з кляшчэлеўскага ПОМ-у, якія выпіваюць па некалькі бутэлек піва і потым касячком праз паркан вяртаюцца на месца працы.

Ніхто не звяртае на гэта ўвагі, ні кіраўніцтва ПОМ-у, ні ГС.

Гандлёўцам не перашкаджае, што працаўнікі ПОМ-у, ці іх вучні трацяць час ля піва. Паставілі нават каляровы, вялікі парасон, дзе прыемна пасядзець ля століка. А ці дырэктару ПОМ таксама не перашкаджае гэта? **(ус)**

## Будзе ці не будзе?

З праблемай гэтай сустрэўся я ў вёсцы Дубяжын Бельскай гміны. Датычыць яна паштовага аддзялення ў Бельску. Ужо некалькі месяцаў, як змоўклі „точкі“ ў хатах Бельшчыны. На пытанне сялян пісьманосец з грыгаравецкай пошты адказаў: „Не аплочваецца трымаць працаўніка, каб напраўляў, пісалі ўжо мы ў Беласток і чакаем адказу“. Будуць ці не будуць „точкі“, ніхто не ведае.

Пошта тлумачыць, што ў наш час „точкі“ непатрэбныя, бо ёсць шмат радыёпрыёмнікаў і тэлевізараў, а сяляне адказваюць, што так прывыклі да іх, што немагчыма без іх абыйсціся. **(ус)**

## Партыйны сход

У падставовай партыйнай арганізацыі ў Паўночным Востраве адбыўся сход. Гэта найбольшая і самая актыўная партыйная арганізацыя ў гміне. У яе складзе — чатыры настаўнікі. Сістэматычна адбываюцца тут лекцыі і гутаркі на розныя тэмы.

На адзначаным сходзе была прынята пастанова, каб у Паўночным Востраве адкрыць краму, якая некалі тут была, але ўжо паўгода як закрыта, бо няма прадаўшчыка. Сакратаром аднадумна быў выбраны настаўнік Іван Чабан.

**Віт**



## Будуецца стаянка аўтамабіляў



У Белавежы пачалі будаваць стаянку аўтамабіляў. Будзе яна змяшчацца на пляцы паміж вуліцай Заставай і ракой Нараўкай, зараз жа ля бензіннай станцыі. Кошт пабудовы 5,5 мільёнаў злотых. Каля стаянкі будзе таксама пабудавана мыйня аўтамабіляў. Паблізу размесціцца бюро абслугоўвання турысцкага руху. Для яго прызначыцца маляўнічы дом сям'і чыгуначніка, які знаходзіцца побач з будуемай стаянкай.

Тэкст і фота **П. Байко**

## Добра працуюць

ВСГР у Нарве ахоплівае тэрыторыю Нараўскай гміны, памагаючы ў апрацоўцы зямлі і ў паслугах сялянам. Мае ўжо сем філіялаў. Аб адным з іх хачу расказаць сёння, менавіта аб філіяле № 7 у вёсцы Трасцянка. Гэты філіял выконвае паслугі сялянам наступных вёсак: Трасцянка, Сацы, Пухлы, Белкі, Агароднікі, Сакі, Анцуты, Іванкі-Рагазы і Цісы. Гэта вялікі абшар, і цяжка ўсім дагадзіць. Кіраўніком філіяла з'яўляецца інжынер Іван Тапалянскі, затэхнікам — Генрык Дубоўскі, а брыгадзірам-магазінерам — Міхась Максімюк. Яны стараюцца, каб праца ішла як мага лепш. І маюць вынікі. У некаторых месцах збіраюць па тры пакосы травы. У гэтым годзе быў добры ўраджай жыта, аўса і лубіну.

Цяпер у Трасцянцы з вялікім размахам пайшла пабудова фермы для авечак — восем аўчарняў на чатыры тысячы штук. Пастаянны агляд вядзе над пабудовай інжынер Сяргей Ваўрэшук. Вядома, што ў Трасцянцы ёсць спрыяльныя ўмовы для такой гадоўлі, бо многа сенажацяў. Кожны гектар зямлі ў вёсцы загаспадараны. Не так, як некалькі гадоў назад, калі на добрай зямлі расло пустазелле.

**М. Лук'янюк**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да заметкі „ЦІ ТАК ПАВІННА БЫЦЬ?“, „Ніва“ № 39/1126 ад 25 верасня 1977 года.**

**Адказвае: „SPOŁEM” WOJEWÓDZKA SPÓŁDZIELNIA SPOŻYWCÓW W HAJNÓWCE, DZIAŁ PRODUKCJI I GASTRONOMII.**

Dyrekcja WSS „Społem” Oddział w Hajnówce w odpowiedzi na notatkę prasową z dnia 25 IX 1977 roku, dotyczącą przebywania piwoszy w barze samoobsługowym przy ul. M. Buczka — informuje, że w porze obiadowej, tj. od godz. 11-tej do godz. 15-tej piwo nie będzie sprzedawane.

**Dyrektor Oddziału**
**Wacław Belter**
**Kierownik**
**Działu Produkcji i Gastronomii**
**Krystyna Wójtowicz**

**Да публікацыі „НА СТАНЦЫІ Ў БЕЛЬСКУ“, „Ніва“ № 39/1126 ад 25 верасня 1977 года.**

**Адказвае: „SPOŁEM” WOJEWÓDZKA SPÓŁDZIELNIA SPOŻYWCÓW W BIAŁYMSTOKU ODDZIAŁ W BIELSKU PODLASKIM.**

W nawiązaniu do notatki prasowej pt. „Na stacji w Bielsku”, która ukazała się w tygodniku „Niwa” z dnia 25 września 1977 roku (nr 39/1126) — Wojewódzka Spółdzielnia Spożywców Oddział w Bielsku Podlaskim uprzejmie informuje, że nieporządki w stacyjnym bufecie zostały usunięte. Ponadto pracownikom bufetu zwrócono uwagę, aby salę posiłków utrzymywano w porządku i czystości. Za zaistniały fakt przepraszamy.

**Z up. Dyrektora Oddziału**
**Bazyl Waszkiewicz**
**Główny Specjalista**
**d.s Produkcji i Gastronomii**

**Да публікацыі „ДАЙЦЕ ТЭЛЕФОН“, „Ніва“ № 40/1127 ад 2 кастрычніка 1977 года.**

**Адказвае: WOJEWÓWZKI URZĄD TELEKOMUNIKACYJNY W BIAŁYMSTOKU.**

W odpowiedzi na notatkę prasową z 40/1127 numeru tygodnika „Niwa” z dnia 2 października 1977 roku w sprawie instalacji telefonów u inseminatorów Stanisława Mikulskiego ze wsi Henrykowo i Jana Matowickiego ze wsi Ogrodniczki — Wojewódzki Urząd Telekomunikacji w Białymstoku wyjaśnia:

Urząd Gminy w Supraślu zwrócił się do nas pismem z dnia 27 kwietnia 1977 roku o zainstalowanie aparatu telefonicznego w mieszkaniu Ob. Jana Matowickiego w Ogrodniczkach. Z uwagi na brak w tym czasie rezerwy w wyjściu kablowym od centrali w Ogrodniczkach odpowiedzieliśmy pismem z dnia 23 czerwca 1977 roku dla Urzędu Gminy w Supraślu, że brak jest możliwości i sprawę zainstalowania telefonu w Ogrodniczkach zrealizujemy w bieżącym roku.

Odnośnie instalacji telefonu u inseminatora we wsi Henrykowo dotychczas nie mieliśmy żadnego zlecenia, a ponadto według informacji uzyskanej ze Stacji Hodowli i Unasieniania Zwierząt w Porosłach punkt unasieniania w Henrykowie będzie zamknięty, a w miejsce jego zostanie utworzony nowy punkt zlokalizowany we wsi Sobolewo.

Nadmieniamy, że obecnie dokonujemy ustaleń ze Stacją Hodowli i Unasieniania Zwierząt w Porosłach odnośnie zainstalowania telefonów w najbliższych latach we wszystkich punktach unasieniania na terenie woj. białostockiego.

**Z-ca Dyrektora**
**mgr inż. R. Mazgajski**

„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

## Неверагоднае ў верагодным

Дырэктар цагельнага завода Кузьма Іванавіч Перапечка прымаў наведвальнікаў. Тыя ў яго затрымліваліся роўна на той час, які быў неабходны для вырашэння пытання. Іншы раз нават крышачку менш, бо дырэктарскі час вельмі дарагі. Але вось у кабінет зайшоў нейкі Адам Жмых.

— Я па-асабістаму, таварыш дырэктар, — з хваляваннем загаварыў ён. — Я, ведаеце, таго... Хачу адрамантаваць печ. Дык вось, трэба выпісаць некалькі цаглін.

— Колькі вам? Тысячу? Паўтары?

— Ды не, што вы! Мне ўсяго некалькі цаглінак.

— Як гэта — усяго некалькі? Колькі ўсё ж?

— Ды штукі чатыры — пяць...

— Бачыце, — сказаў Кузьма Іванавіч, нервова глянуўшы на гадзіннік, — такую дробязь вам не стане выпісваць бухгалтэрыя: у іх разлік па сотнях — тысячах, а вы — пяць цаглінак. Ды і ў мяне вунь колькі часу аднялі.

— Даруйце, я не хацеў, — вінавата сказаў Адам, — але што ж мне рабіць?

— А вы ідзіце і вазьміце некалькі цаглін.

— Як жа так? Што скажуць людзі? Яны скажуць: глядзіце, вунь нячысты на руку чалавек пацягнуў народнае дабро.

— Што вы! — супакоіў яго дырэктар і з яшчэ большым хваляваннем паглядзеў на гадзіннік. — За такую дробязь ніхто нічога не скажа.

— Ну дык падумае.

— І не падумае. Але добра, калі вы гэтак трывожыцеся, я зараз паперку напішу, што дазваляю ўзяць вам пяць цаглін.

— Калі ласка, не пішыце. Прашу вас, не рабіце гэтага. Бо ў такім выпадку цагліны дастануцца мне бясплатна, і хоць ніхто нічога не скажа, і не падумае, я ўсё роўна не вазьму іх: маё ўласнае сумленне не дазволіць гэтага зрабіць.

Дырэктар раптам на некалькі імгненняў скамянеў, утаропіўся на Адама. Ён быў ашаломлены.

„Гэта ж трэба, — думаў Кузьма Іванавіч, — якой незвычайнай чэснасці чалавек! Другі на яго месцы даўно ўжо ўзяў бы пад пахі тыя цагліны і панёс, а ён вось — нізавошта! Дарэмна я шкадаваў сваіх дарагіх мінут, якія на яго патраціў: гэта ж шчасце бачыць такога чалавека!"

Дырэктар заглянуў у светлыя вочы Адама, у якіх свяцілася сама святая прастата, і яму захацелася ўзняцца і пацалаваць яго ці сказаць што-небудзь далікатнае, але сіла субардынацыі ўсё ж стрымала яго.

— Калі так, то я асабіста прэміраую вас тымі цаглінамі. За выключную чэснасць.

Кузьма Іванавіч яшчэ не ведаў, што ў сувязі з буйным крадзяжом асобай Адама Жмыха ўжо зацікавіліся следчыя.

**Рыгор Лазуркін**

# НІЎКА

**МІКОЛКА**

— Я бачыў у сне жывую Бабу Ягу, — расказвае Міколка. — А бабуля гаварыла, што яна бывае толькі ў казках...

Дапытлівы: паехаў на полюс, каб убачыць зямную вось.

### НЕ СПЕЦЫЯЛІСТ

— Учора ў нас быў водаправодчык, але я баюся, што гэта не спецыяліст.

— Чаму?

— Адмовіўся ад пачастунку і не ўзяў на выпіўку.

### ВЕДАЕ

— Улічы, фарбаваць валасы небяспечна.

— Я ведаю. Мой дзядзька пафарбаваў сівыя валасы на чорны колер і праз два тыдні жаніўся на ўдаве, у якой пяцёра дзяцей.

**ГУМАР З**

### ГАСЦІННЫ

— Сёння я вас, госцейкі, буду частаваць, як у іншых народаў частуюць, — кажа гаспадар гасцям..

— Як гэта? — не разумеюць госці.

— Чокацца адзін з адным будзем.

Але ў доме гаспадара... знайшлося ўсяго два кубкі.

Наліў ён у гэтыя кубкі віна, адзін узяў сам, другі падаў госцю. Чокнуліся, выпілі. Гэтак выпіў і з другім, і з трэцім, і з чацвёртым...

Раніцою гасцінны гаспадар сяктак выбраўся з-пад стала і кажа сам сабе:

— О, д'ябал! Нават я напіўся, а як... госці ап'янелі!

**МІНІВЕРШЫ**

### РАДАСЦЬ БАЦЬКІ

Бацька сыну даў кілішак,
Сам стаіць і дзівіцца:
— У мяне пайшоў мой Міша —
Вып'е і не скрывіцца.

**Васіль Юрэвіч**

### МУДРАЦЫ

Спытаў Асёл:
— Хто мудрасцю багаты?
І адказаў Казёл:
— Той, хто рагаты.

### НЕПАЗБЕЖНЫ ЗАКОН

У тых мясцінах,
Дзе ёсць аслы,
Ільвам не пазбегнуць
Ніяк пахвалы.

**Шана Смаханулы**

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*По просьбе Мірaславы Рэмеш з Нурца, Галіны Юзвюк з Барысайкі і дзяўчат з Парцава змяшчаем песню*

## Kukułeczka

**Piosenka ludowa**

opracowanie:
Urszula Sipińska

Kukułeczka kuka
Chłopiec panny szuka
Spozira przebira
I nosa zadzira
Kukułeczka kuka
Serce we mnie stuka
Głupi ten kawalir
Co z majątkiem szuka
Ku ku, ku ku
A a a, aaa,
Łodiridi, łodirididi
Łodiridi, łodiridi
Dirida!
Chłopcy moje chłopcy
Co wy tam dufacie
Czy to te surduty
Co po jednym macie
Poznać ci to poznać
Chłopca fanfarona
Choć pusto w kieszeni
Głowa podniesiona
Kukułeczka kuka
Serce mi dopowie
Że ten najbogatszy
Co ma dobrze w głowie.
Kukułeczka, kukułeczka,
kukułeczka.




— *Прышыйце, калі ласка, гузік.*

— *Адарвуцца ўсе, тады і прыходзьце.*

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Афіцыянт: — Ваша кава, сэр, спецыяльна з Паўднёвай Амерыкі.

Наведвальнік: — Ах вось, аказваецца, дзе вы былі!

*

Наймальнік кватэры аглядае мансарду і гаворыць:

— Скажыце шчыра, дах, напэўна, цячэ?

— Толькі ў час дажджу, — адказвае гаспадар.

*

Блізкаўсходні шэйх, які рабіў паездку па Еўропе, адправіўся на балетнае прадстаўленне. Паглядзеўшы спектакль, ён спытаў дырэктара тэатра:

— Скажыце, калі ласка, а хто муж гэтага балета?



### НІЧОГА СТРАШНАГА

Кастусь пытае доктара Знахарука:

— Скажыце, што ў маёй жонкі?

— Нічога страшнага. Неўроз. З ім яна пражыве да ста год.

— А я? — пытае Кастусь.

### КОЖНАМУ СВАЁ

Кастусь заснуў у час перадачы па тэлевізару футбольнага матча. Жонка будзіць яго:

— Уставай, ужо адзінаццаць.

— У чыю карысць? — закрычаў у страху Кастусь.

### НЕПРЫТОМНЫ

На беластоцкай вуліцы навокал страціўшага прытомнасць Кастуся сабраўся натоўп.

— Што ж рабіць у такіх выпадках? — спытаў чалавек, нагнуўшыся над ляжачым Кастусём. — Існуе столькі розных рэчаў, ад штучнага дыхання да каньяка... Можа, сапраўды ўліць яму ў рот крыху каньяка?

— Уліце, — прашаптаў непрытомны Кастусь, расплюшчваючы вочы, — і забудзьце аб усім астатнім.



# КУРЁЗЫ

### СМЕХ І СЛЁЗЫ

Нядаўна адзін малады амерыканец падаў у суд на сваю былую школу і настаўнікаў за тое, што яны не забяспечылі яму атрымання пэўных ведаў, неабходных для будучай работы і жыцця. Цяжка зараз здагадацца, якім прысудам закончыцца гэты незвычайны іск, але наўрад ці можна лічыць тут вінаватымі настаўнікаў. Справа ў тым, што ўся сістэма адукацыі ў гэтай краіне пастаўлена так, што не спрыяе набыццю глыбокіх ведаў навучэнцамі, выхаванню іх сумленнымі людзьмі. Да таго ж зусім проста сабе ўявіць становішча настаўніка, калі нейкі падростак-лайдак замест адказу зададзенага ўрока дастае з ранца рэвальвер і пагражае стрэліць. У такім разе выхавацель ідзе на ўсялякія ўступкі вучню і не можа патрабаваць ад яго тое, што яму не хочацца рабіць.

### ГОЛУБ-САЎДЗЕЛЬНІК

Калі некалькі жанчын з дзецьмі ўвайшлі ў ювелірны магазін горада Рыл, яны не прыцягнулі да сябе асаблівай увагі. Але вось адна з іх адкрыла кардонку, і з яе вылецеў голуб. Служачыя магазіна кінуліся яго лавіць. Нарэшце, птушка была злоўлена, вернута гаспадыням, і тыя спакойна пакінулі магазін. Аднак, як высветлілася пазней, яны забралі не толькі голуба, але і прыхапілі ў мітусні пярсцёнак коштам 700 фунтаў стэрлінгаў.

„Аб такім труку мне не даводзілася чуць раней", — заявіў журналістам прадстаўнік уэльскай паліцыі.




**І сумленню не перашкаджае мець Знак якасці!**